*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 10 (549) 6 САКАВІКА 2002 г.**

# Шаноўныя чытачы газеты “Наша слова”, шаноўныя сябры ТБМ

У чарговы раз для газеты “Наша слова” наступілі цяжкія часы. Фінансавы стан газеты вельмі дрэнны. Затраты на выданне сталі непамернымі. Цэны толькі за друк дасягнулі амаль да 100 долараў за нумар. Аплата за паштовыя паслугі бярэцца, як за перасылку бандэроляў, што недзе ў 5-6 разоў даражэй, чым плата за аналагічныя паслугі для дзяржаўных газет. Белсаюздрук падняў камісійны збор да 35% замеж былых 30%. Белпошта забірае з грошай, заплачаных людзьмі за падпіску, 55%.

У той жа час амаль усе нашыя фінансавыя прыбыткі -- гэта грошы, якія паступаюць толькі ад падпіскі. І хоць мы трацім тут 55%, астатнія грошы прыходзяць своечасова. Грошы ж ад продажу ў шапіках нам практычна паступаюць праз некалькі месяцаў пасля продажу, і то гэта толькі грошы з Менска і Ліды, сяды-тады з Горадні. Грошы з астатніх месцаў, як правіла, ідуць у залік паштовых перасылак.

Разам з тым, шаноўныя сябры ТБМ, друк і 1 000 і 10 000 асобнікаў каштуе амаль аднолькава. Таму, чым большы наклад, тым меншы сабекошт, тым таней абыходзіцца кожны асобнік, тым лягчэй выжыць газеце. Падняць наклад за кошт продажу ў шапіках немагчыма, тут усё адрэгулявана, мы кантралюем продаж і маем звесткі пра зварот газеты з шапікаў. Таму мы можам спадзявацца толькі на павелічэнне колькасці падпісчыкаў. Ужо пры 5-6 тысячах падпісчыкаў мы змаглі б выжыць, але сёння мы маем рэальныя 1,5 тысячы.

Шаноўныя сябры ТБМ, нас 10 000. Хай кожны з вас нічога не робіць у ТБМ, хай не ходзіць на мітынгі, хай не збірае подпісы і г. д. Што ж гэта зробяць актывісты.

Але хай кожны з вас зробіць свой мінімум -- падпішацца на газету “Наша слова”, і вы ўсе разам зробіце найвялікшую справу. Вы зберажаце для Беларусі беларускую газету. Падпішыцеся самі, угаварыце падпісацца сябра, знаёмага, сваяка.

**Ваш подзвіг каштуе 1254 рублі на 3 месяцы і 100 - 300 крокаў да паштовага аддзялення. Дык ці здольны той, хто называе сябе сябрам ТБМ на ахвярнасць у 1254 рублі і 300 крокаў?**

*Рэдактар газеты “Наша слова” Станіслаў СУДНІК.*

МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ



МИНИСТЕРСТВО КУЛЬТУРЫ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

Праспект Машэрава, 11, 220004, г. Мінск
Тэлефон (017) 223 75 74
Тэлефакс (017) 223 90 45

Проспект Машерова, 11, 220004, г. Минск
Телефон (017) 223 75 74
Телефакс (017) 223 90 45

20.02.2002. № 03-04/597

**220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13,**
**ГА “Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны”**

Інфармуем, што па даручэнню Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, ваш **варыянт гімна Беларусі** перададзены на разгляд камісіі па стварэнню новага гімна.

*Першы намеснік Міністра У. П. Рылатка.*

## Вандроўка ў Мсціслаў

20 лютага старшыня ТБМ Алег Трусаў наведаў старажытны Мсціслаў дзе сустрэўся з кіраўніцтвам мясцовай суполкі ТБМ.

Начале мсціслаўскай суполкі стаіць вядомы беларускі рэстаўратар Юрась Маліноўскі. Менавіта ён ажыццяўляў навуковы нагляд за аднаўленнем шмат якіх будынкаў у цэнтры горада перад святкаваннем тут у мінулым годзе Дзён беларускага пісьменства і друку.

Адбылася зацікаўленая гаворка на тэмы звязаныя з асноўнымі кірункамі дзейнасці ТБМ. Мясцовая арганізацыя вырашыла правесці вечарыну свайго славутага земляка Міхася Ткачова, а таксама змагацца за адкрыццё ў Мсціславе нацыянальнай беларускамоўнай гімназіі.

**Наш карэспандэнт.**

## *Шануйма нашых песняроў*

***Шаноўныя чытачы “Нашага слова”, на 2-й старонцы газеты прапануем Вашай увазе план дзяржаўных мерапрыемстваў з нагоды юбілею народных паэтаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Спадзяёмся, што Вы прымеце самы актыўны ўдзел у яго рэалізацыі. Нам прыемна сёння паведаміць пра ініцыятыву Ларысы Манюк, якая ўзяла пытанне пра ўшанаванне памяці Янкі Купалы ў вёсцы Бенін Наваградскага раёна, дзе ў 1909 годзе ён пэўны час працаваў эканомам і пісаў свае вершы. Голас Ларысы Манюк пры падтрымцы і дапамозе ТБМ быў пачуты мясцовай уладай, якая зараз прымае захады па выкананні ейнай прапановы.***

***Да юбілею паэтаў Сакратарыят Таварыства рыхтуе кішэнны каляндарык на 2002-2003 гады з выявамі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Не забудземся і пра тое, што, бадай, самым дарагім падарункам нашым песнярам будзе жывое беларускае слова на абсягах нашай краіны. Дзеля гэтага мы жывём і працуем.***

*Ірына Ляксеева.*

*Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, “Наша слова”*

***Шаноўнае спадарства, сябры ТБМ! Заканчваецца падпіска на газету ТБМ “Наша слова” на другі квартал 2002 года. Пакуль што цана на падпіску не змянілася, наша газета застаецца адной з самых танных культуралагічных газетаў Беларусі. Пры гэтым мы і толькі мы забяспечым вас усёй інфармацыяй па праблемах беларускай мовы ў нашай краіне. За 1254 рублі вы будзеце штотыднёва мець у сваёй хаце самую беларускую газету на Беларусі.***

***Цана ведамаснай падпіскі складае 1392 рублі на квартал.***

***Мы просім усе арганізацыі ТБМ правесці падпіску на газету “Наша слова” для бібліятэк і школаў сваіх гарадоў і раёнаў. Для кожнай арганізацыі -- гэта рэальная справа, для газеты -- рэальная магчымасць выжыць.***

Ф. СП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

На 2002 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

| Кошт | падпіскі: 1254 руб. | пераадрасоўкі: руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|

На 2002 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

Беларуская мова - ТБМ - наша будучыня



## *Ахвяраванні на ТБМ*

**СШ № 193 (настаўнікі)**
1. Ярхова Алена І. – 1000 р.
2. Кастанчук А.М. – 1000 р.
3. Саўчук М.Н. – 1000 р.
4. Ішазеня І.В. – 1000 р.
5. Юркова М.А. – 1000 р.
6. Скіба В.Б. – 1000 р.
7. Баркоўская С.А. – 1000 р.
8. Клябанаў Дз.Ф. – 1000 р.

**СШ №193 (вучні)**
1. Іванюшка Кацярына – 150 р.
2. Лойка Кацярына – 100 р.
3. Жданюк Марына – 100 р.
4. Нямцова Марыя – 100 р.
5. Пашук Іна – 100 р.
6. Марчанка Настасся – 100 р.
7. Корсак Ала – 100 р.
8. Каптур Вераніка – 100 р.
9. Корбут Алена – 100 р.
10. Якубенка Кацярына – 100 р.
11. Белахвацік Барыс – 220 р.
12. Пятроў Аляксей – 100 р.
13. Рамашка Іван – 100 р.
14. Ганчар Леанід – 100 р.
15. Дружэня Дзяніс – 100 р.
16. Кушчанка Сяргей – 100 р.
17. Савановіч Яўген – 100 р.
18. Навіцкі Аляксей – 100 р.
19. Далевіч Надзея – 100 р.
20. Бандаровец Алеся – 100 р.
21. Журок Максім – 100 р.
22. Канашонак Кацярына – 300 р.
23. Швец Ганна – 300 р.
24. Піцюк Вікторыя – 200 р.
25. Лісоўская Вольга – 200 р.
26. Таўшанаў Ягор – 200 р.
27. Кахновіч Юлія – 200 р.
28. Левановіч Алена – 100 р.
29. Бялько Аляксандр – 400 р.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белінвестбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).



№ 10 (549) 6 САКАВІКА 2002 г. наша слова

ЗАЦВЯРДЖАЮ
Намеснік Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь,
Старшыня Нацыянальнага аргкамітэта па правядзенню
ўрачыстых мерапрыемстваў, прысвечаных 120-годдзю з дня
нараджэння народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа
У. П. Дражын
06.12.2001 № 05/206-518

# ПЛАН

## Мерапрыемстваў, прысвечаных 120-годдзю з дня нараджэнн народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа

| №№ п.п. Назва мерапрыемства | Тэрмін выканання | Адказныя |
|---|---|---|
| **Арганізацыйна-фінансавае забеспячэнне** | | |
| **1.** Правесці пасяджэнні Нацыянальнага аргкамітэта. | 1 раз у паўгоддзе | Аргкамітэт |
| **2.** Падрыхтаваць і разгледзець каштарыс выдаткаў на правядзенне юбілейных мерапрыемстваў, прысвечаных 120-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. | ІУ квартал 2001 г. | Мінкультуры, аргкамітэт, Мінфін |
| **3.** Зацікаўленым міністэрствам, іншым органам дзяржаўнага кіравання пры складанні праекта бюджэту на 2002 год прадугледзець сродкі на ажыццяўленне мерапрыемстваў, звязаных з 120-годдзем з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. | ІУ квартал 2001 г | Міністэрствы, аблвыканкамы і Мінскі гарвыканкам |
| **4.** Зябяспечыць шырокае асвятленне ў сродках масавай інфармацыі падрыхтоўкі і святкавання юбілеяў Янкі Купалы і Якуба Коласа. | Другое паўгоддзе 2001 г. – 2002 год | Белтэлерадыёкампанія, Мінінфарм |
| **Інфармацыйная і культурна-масавая дзейнасць** | | |
| **5.** Арганізаваць і правесці Рэспубліканскі вечар і святочны канцэрт. | Верасень 2002 г. | Аргкамітэт, Мінкультуры, Мінгарвыканкам |
| **6.** Арганізаваць і правесці Рэспубліканскую мастацкую выстаўку "З думай пра Беларусь", прысвечаную 120-годдзю з дня нараджэння Янкуі Купалы і Якуба Коласа. | Кастрычнік-лістапад 2002 г. | Мінкультуры, Саюз беларускіх мастакоў |
| **7.** Адкрыць новую літаратурную экспазіцыю ў літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа і добраўпарадкаваць тэрыторыю вакол музея. | Лістапад 2002 г. | Мінкультуры, Мінгарвыканкам |
| **8.** Часткова абнавіць і ўдасканаліць экспазіцыю музея Янкі Купалы ў г. Мінску | Першае паўгоддзе 2002 | Мінкультуры, Мінгарвыканкам |
| **9.** Арганізаваць і правесці міжнародныя навукова-практычныя канферэнцыі "Янка Купала, Якуб Колас і сучасны літаратурны працэс". | Чэрвень, кастрычнік 2002 г. | НАН Беларусі, Саюз беларускіх пісьменнікаў, Мінкультуры |
| **10.** Арганізаваць і правесці Рэспубліканскае свята паэзіі ў Коласаўскім мемарыяльным заказніку Стаўбцоўскага раёна. | Лістапад 2002 г. | Мінкультуры, Мінаблвыканкам, Саюз беларускіх пісьменнікаў |
| **11.** Арганізаваць і правесці Рэспубліканскае свята паэзіі "Купалле" ў Вязынцы Маладзечанскага раёна. | Ліпень 2002 г. | Мінкультуры, Мінаблвыканкам, Саюз беларускіх пісьменнікаў |
| **12.** Добраўпарадкаваць мясціны, звязаныя з імёнамі Янкі Купалы і Якуба Коласа:<br>Магілы Янкі Купалы і Якуба Коласа і іх родных на Вайсковых могілках у г. Мінску;<br>Помнік Янку Купалу і пляцоўку вакол яго ў г. Мінску;<br>Могілкі ў в. Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна;<br>Тэрыторыю, якая прылягае да мемарыяльных сядзіб Акінчыцы і Альбуць у Стаўбцоўскім раёне;<br>Пад'язныя дарогі да мемарыяльных сядзіб Альбуць і Ласток Стаўбцоўскага раёна, Вязынка, Яхімаўшчына Маладзечанскага раёна, Акопы Лагойскага раёна, Ляўкі Аршанскага раёна;<br>Памятныя мясціны, звязаныя з жыццём і творчасцю класікаў беларускай літаратуры ў Ганцавіцкім, Пінскім, Нясвіжскім, Пухавіцкім, Смалявіцкім і іншых раёнах Рэспублікі Беларусь. | 2001-2002 гады | Мінгарвыканкам, Мінскі, Віцебскі, Брэсцкі аблвыканкамы |
| **13.**У навучальных установах рэспублікі правесці паэтычныя чытанні, вечары паэзіі, конкурсы на лепшае сачыненне, малюнак, выкананне твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа. **1 верасня** правесці спецыяльны ўрок, прысвечаны паэтам. | 2002 год | Мінадукацыі, Саюз беларускіх пісьменнікаў |
| **14.** Выпусціць юбілейныя манеты, прысвечаныя 120-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. | першае паўгоддзе 2002 г. | Нацыянальны банк |
| **15.** Ажыццявіць паказ дакументальных фільмаў аб жыцці і творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа і мастацкіх фільмаў паводле іх твораў. | 2002 год | Белтэлерадыёкампанія, "Белвідэацэнтр" |
| **16.** Здзейсніць пастаноўкі спектакляў па творах Янкі Купалы і Якуба Коласа ў тэатрах рэспублікі, узнавіўшы пастаноўкі п'есы "Тутэйшыя" на новых дэкарацыях у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. | 2002 год | Мінкультуры, Мінгарвыканкам, аблвыканкамы |
| **17.** Змясціць старонку з інфармацыяй аб жыцці і творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа ў інтэтнэце. | першае паўгоддзе 2002 г. | Мінкультыру, Мінсувязі |
| **18.** Стварыць відэафільм аб музеях Янкі Купалы і Якуба Коласа і іх філіялах. | II квартал 2002 г. | "Белвідэацэнтр" |
| **19.** Выпусціць кампакт-дыск з песнямі і музычнымі творамі на вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа. | Першае паўгоддзе 2002 г. | Мінкультуры |
| **20.** Разгледзець пытанне аб музеефікацыі дома ў г. Пінску, дзе жыў у 1912-1915 гадах Якуб Колас. | 2002 г. | Брэсцкі аблвыканкам, Пінскі гарвыканкам |
| **21.** Арганізаваць і правесці Рэспубліканскі конкурс артыстаў-чытальнікаў літаратурных праграм па творах Янкі Купалы і Якуба Коласа. | чэрвень – кастрычнік 2002 г. | Беларускі саюз тэатральных дзеячаў, Мінкультуры |
| **22.** Арганізаваць і правесці Рэспубліканскі корнкурс кампазітараў на лепшае вакальнае сачыненне па матывах твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа. | чэрвень 2002 г. | Беларускі саюз кампазітараў, Мінкультуры |
| **23.** Арганізаваць і правесці Рэспубліканскі конкурс на лепшы твор літаратуры, прысвечаны юбілею Янкі Купалы і Якуба Коласа. | ліпень 2002 г. | Саюз беларускіх пісьменнікаў, Мінінфарм |
| **Выдавецкая дзейнасць і выраб сувенірнай прадукцыі** | | |
| **24.** Выпусціць паштовыя маркі і канверты Першага дня, прысвечаныя Янку Купалу і Якубу Коласу. Арганізаваць гашэнне паштовых марак спецыяльнымі памятнымі штэмпелямі. | другое паўгоддзе 2002 г. | Мінсувязі |
| **25.** Забяспечыць выраб значкоў, буклетаў, календароў і іншай сувенірнай прадукцыі юбілейнай тэматыкі. | 2002 год | Мінкультуры, Мінінфарм |
| 26. Выдаць:<br>зборнік паэзіі Янкі Купалы у серыі "Беларускі кнігазбор";<br>зборнік твораў Якуба Коласа;<br>кнігу Янкі Купалы для дзяцей "Байкі";<br>зборнік матэрыялаў "Светач-полымя" (успаміны, артыкулы, вершы, прысвечаныя Янку Купалу);<br>зборнікі "Янка Купала. Санеты", "Лірыка Якуба Коласа";<br>9-томнае выданне Янкі Купалы;<br>альбом-буклет "Па купалаўскіх мясцінах";<br>сувенірныя кніжкі-малюткі "Сымон-музыка", "Новая Зямля". | 2002 год | Мінінфарм |
| **27.** Выдаць сувенірны варыянт паэмы Якуба Коласа "Новая Зямля" на трох мовах (беларускай, рускай і польскай) | 2002 год | Беларускі фонд культуры |
| 28. Выдаць даследаванні спадчыны народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа, выкананыя супрацоўнікамі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы:<br>Уладзімір Гніламёдаў. Янка Купала: сучасны погляд;<br>Васіль Жураўлёў. Актуальнасць традыцый;<br>Сцяпан Лаўшук. Драматургія Янкі Купалы і Якуба Коласа. | 2002 год | Мінінфарм, НАН Беларусі |
| **29.** Падрыхтаваць спецыяльны выпуск часопіса "Беларусь" на беларускай і англійскай мовах, прысвечаны жыццю і творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа. | 2002 год | Мінінфарм |
| **Міжнародная дзейнасць** | | |
| **30.** Разгледзець пытанне аб арганізацыі і правядзенні ўрачыстага вечара і канцэрта, прысвечаных 120-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа ў Маскве, а таксама ўрачыстых акцый у Кіеве, Парыжы, Вільнюсе і Варшаве. | ІУ квартал 2002 г. | Аргкамітэт, МЗС, Мінінфарм |
| **31.** Вырабіць і распаўсюдзіць за межамі Беларусі праз пасольствы перасоўныя фотавыстаўкі аб жыцці і творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа. | 2002 год | Мінкультуры, МЗС |
| **32.** Вырашыць пытанне аб стварэнні і ўстаноўцы ў г. Маскве помніка Янку Купалу, а ў г. Санкт-Пецярбургу – Якубу Коласу. | 2001 – 2002 гады | Мінкультуры, МЗС |
| **33.** Вызначыць склад замежных гасцей, якія будуць запрошаны для ўдзелу ў святочных мерапрыемствах, і ажыццявіць іх афіцыйнае запрашэнне. | І квартал 2002 г. | Мінкультуры, Саюз беларускіх пісьменнікаў, МЗС |
| **Рэгіянальная дзейнасць** | | |
| **34.** Распрацаваць рэгіянальныя планы мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзенню юбілеяў паэтаў. | ІУ квартал 2001 г. | Аблвыканкамы і Мінгарвыканкам |





# Беларуская мова ў храме

У царкве хрысціян веры евангельскай "Божая ласка" адбылося нядзельнае набажэнства на беларускай мове. Пастар Уладзімір у сваіх казаннях звяртаўся да Старога Запавету ў перакладзе Васіля Сёмухі. У набажэнстве браў удзел, акрамя царкоўнага, запрошаны з гэтай нагоды хор менскага касцёла Святой Троіцы. Пад скляпеннямі храма цягам дзвюх гадзінаў гучала родная мова ў Слове Божым і духоўных спевах. Гэта было першае сумеснае набажэнства каталікоў і пратэстантаў, як прыклад яднання розных хрысціянскіх канфесіяў на грунце пашаны ды любові да роднага слова. Выказвалася думка ў абарону закрытай уладамі радыёперадачы "Голас душы".

Сярод гасцей на богаслужбе прысутнічаў старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў. Ён выказаў шчырую падзяку пастару Уладзіміру за адраджэнне беларускай мовы ў набажэнстве. Ад таго вечара 17 лютага кожны тыдзень у нядзельку а 18 гадзіне ў царкву "Божая ласка", што на вуліцы Гурскага, 48, можа завітаць кожны, хто жадае слухаць Слова Божае на роднай мове незалежна ад свайго веравызнання.

*Ірына Ляксеева.*

# Лекцыя дзеля папулярызацыі беларускай мовы

28 лютага ў будынку БДУ культуры адбывалася навукова-папулярная лекцыя. "Асноўныя тэндэнцыі развіцця старабеларускай мовы (14-18 ст.)", якую чытаў дацэнт І. П. Клімаў.

Спадар Ігар распавядаў прысутным пра тое, што ў 16-18 ст. было створана шмат помнікаў пісьменства, якія зараз захоўваюцца ў розных краінах і ў Беларусі але нажаль, шмат якія з іх яшчэ не прачытаны.

Мэта якую ставіў Ігар Паўлавіч – зацікавіць прысутных далейшым росчытам старабеларускіх тэкстаў, якія налічваюць сотні старонак.

Лектар расказаў нам, студэнтам універсітэта, выкладчыкам з кафедры беларускай мовы і літаратуры, гасцям, якія завіталі ў аўдыторыю, пра узнікненне, развіццё, станаўленне і заняпад старабеларускай мовы. Ён спасылаўся на працы шматлікіх навукоўцаў і рабіў свае высновы.

Шмат цікавага і раней невядомага можна даведацца, калі паслухаеш такую лекцыю. А гісторыю сваёй мовы, як я лічу, павінен ведаць кожны паважаючы сябе чалавек. Можа таму ў нашай краіне так мала і размаўляе на беларускай мове, бо многія не ведаюць абсалютова нічога пра гэту самую мову.

Цікавыя факты даў спадар Клімаў, калі расказаў які ўплыў зрабіла старабеларуская мова на іншыя мовы. Напрыклад, выкарыстанне суфіксаў – ***ство-, -ства-*** у рускай мове пайшло менавіта са старабеларукай мовы, ужыванне складанага будучага часу ***(буду писать)***.

Ігар Паўлавіч даўно займаецца вывучэннеем беларускай мовы, але праводзіць такія лекцыі – гэта яго першая спроба, якая, на мой погляд была паспяховай. Наступная лекцыя, якую прачытае спадар Клімаў – гэта будзе лекцыя пра узнікненне і развіццё новай беларускай мовы, якая адбудзецца 14 сакавіка ў БДУ культуры. Запрашаюцца ўсе, каму гэта цікава.

*І. Секяржыцкая.*




У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі адкрылася выстава "Выдатная кніжная спадчына XV-XX стагоддзяў Беларусі і Польшчы з калекцыі Радзівілаў".

На выставе прадстаўлена ўнікальная калекцыя вядомай бібліятэкі Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў, якая перададзена ў бібліятэку Акадэміі навук у 1940 годзе.

**На здымку**: экспазіцыя выставы.

**Фота Аляксандра Дзідзевіча, БелТА.**

# Выстава "Эка АРТ – 2002"

У рэспубліканскай галярэі "Прырода і творчасць" 22 лютага была адкрыта выстава "Эка АРТ – 2002", якая працягвае сваю дзейнасць і цяпер. Зусім нядаўна я была ў ліку наведвальнікаў гэтай галярэі, у якой заўсёды чакаюць аматараў мастацтва

Вольга Уладзіміраўна Камінская – загадчык галярэі, радасна вітае ахвотных паглядзець выставу. Яна расказала, што ў асноўным яе наведвае моладзь, і гэта радуе. Мабыць, не ўсё страчана, бо мы, людзі XXI стагоддзя сталі звяртаць увагу на тое асяроддзе, у якім мы жывём. Спадарыня Вольга сказала, што выстава была запланавана даўней, але магчымасць адкрыцца выпала толькі цяпер. Свае працы прадставіла каля 40-ка мастакоў-прафесіяналаў. Сярод іх і А. і І. Марачкіны, В. Сулкоўскі, Я. Батальёмак, А. Шатэрнік, А. Хадаровіч і інш. Гэтыя людзі выставілі 72 карціны і 4 скульптурныя выявы розныя па сваёй манеры і па стылю напісання такія карціны надоўга застаюцца ў памяці людзей. Вольга Уладзіміраўна распавядала пра дзіцячую выставу, якая дзейнічала ў сценах гэтай галярэі. Расказала, што праз 2 тыдні плануецца адкрыццё фотавыставы "Птушкі Беларусі".

Мяне здзівіў адзін цікавы факт, з таго, аб чым гаварыла загадчыца. Менавіта людзей старэйшага пакалення і людзей сярэдняга ўзросту больш уражваюць пейзажы, на якіх намаляваны стажкі, дамы, дрэвы, палі, кветкі – усё нашае беларускае. А вось моладзь захапляецца працамі філасофскага зместу. Мабыць, гэты факт сведчыць аб тым, што ад камуністычнага мінулага, калі ад прыроды было трэба толькі нешта браць, калі асушваліся балоты, знішчаліся лясы, мы перайшлі ў стан, калі людзі звяртаюць увагу на тое, што вакол іх, што яны могуць зрабіць для таго, каб жыццё стала лепшым і чысцейшым. Можа, вось такая экалагічныя выставы – гэта і ёсць паказчык таго, што шмат увагі звяртаецца на нашу родную нічуць не горшую за іншую беларускую зямлю, якую мы зможам уратаваць любоўю, клопатам, павагаю.

*І. Секяржыцкая.*

# ЯПОНСКІ ПАДРУЧНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Такійскае выдавецтва "Дайгакушарын", якое цесна звязана з аддзяленнем славістыкі аднаго з універсітэтаў японскай сталіцы, распрацавала новую выдавецкую серыю – кампактныя вучэбныя дапаможнікі па ўсіх славянскіх мовах. У канцы 1998 г. выйшлі два з іх, падрыхтаваныя універсітэцкімі славістамі, мужам і жонкай. Падручнік па чэшскай мове напісала Куміко Каназашы, а па беларускай мове – яе муж, беларусіст Руносукэ Курода. Што да чэшскай мовы, дык гэта не першы моўны дапаможнік для японцаў, а вось падручнік па беларускай мове надрукаваны ў Японіі ўпершыню.




Перад намі – невялічкая кніжка ўсяго на 175 старонак, амаль кішэнны фармат, але ж якая ёмістая! І пры гэтым зусім не дробны шрыфт і не звышцесны набор. Канцэнтраванасць кнігі ствараюць дзве рэчы. Па-першае, высокі прафесіяналізм аўтара, інакш кажучы, добрае разуменне таго, як даць чытачу (перш за ўсё японскаму студэнту) усебаковае і пры гэтым сціслае і практычнае ўяўленне аб незнаёмай мове. Па-другое, поспех кнігі Руносукэ Курода забяспечваецца дбайным выкарыстаннем беларускіх лінгвістычных крыніц. Як і мае быць, гэтыя крыніцы, 15 назваў, рупліва пералічаны ў прадмове – 13 мінскіх выданняў, адно – маскоўскае, адно – варшаўскае. Руноскэ Курода меў справу з усімі слоўнікамі і граматыкамі, што былі падрыхтаваны ў Нацыянальнай акадэміі навук, з беларускімі моўнымі даведнікамі і размоўнікамі, а таксама з частотнымі слоўнікамі беларукай мовы, створанымі ў БДУ.

Цяпер аб самім падручніку. Яго назва нашага чытача магла б дэзарыентаваць, бо яна вузейшая, чым змест кнігі – "Частотны слоўнік беларускай мовы. 1500 слоў". Вядома, слоўнік у ёй ёсць (прычым у дзвюх алфавітных версіях – беларуска-японскай і японска-беларускай), і тое, што ў яго трапілі толькі самыя частыя словы, - гэта галоўная перадумова той канцэнтраванасці і лінгвістычнай якасці, аб якой гаварылася вышэй. Аднак фактычна падручнік змяшчае не толькі слоўнікі, але і кароткі нарыс беларускай фанетыкі і граматыкі, пералік асноўных адрозненняў беларускай мовы ад рускай у гучанні, пісьме і граматыцы, а таксама некалькі тэматычных падборак лексікі.

Што ж за словы трапілі ў падборкі? На мой погляд, псіхалагічна гэта вельмі цікавы, невыпадковы і нават сімвалічны момант. Уявіце: такійскі славіст складае першы японскі падручнік беларускай мовы, такой экзатычнай для Японіі. На пяці старонках ён змяшчае некалькі дзесяткаў беларускіх слоў універсальнага значэння. Што гэта за словы? Натуральна, гэта галоўныя каардынаты жыцця ўсіх людзей: дні тыдня назвы месяца, сезонаў года і бакоў свету, нарэшце, - назвы краін і народаў. У гэтыя каардынаты жыцця ўпісаны і нашы імёны Беларусь, беларус, беларуска.

На жаль, у японскім падручніку па беларускай мове (і гэта ў адрозненне ад чэшскай кнігі) няма геаграфічнай карты краіны "выкладанай мовы". Думаю, справа была ў тым, што ў Токіо цяжка было адшукаць карту Беларусі з тапанімікай па-беларуску, і хаця першая падрабязная карта новай Беларусі з беларускімі назвамі з'явілася (не ў нас, а ў Германіі) яшчэ ў 1993 г., усё ж годна прадстаўляць нашыя імёны ў свеце – гэта перш за ўсё наш клопат.

Хай гэты водгук будзе прывітаннем у адрас японскіх славістаў Куміко Каназашы і Руносукэ Курода. Шчыра віншую іх з навуковым і выдавецкім поспехам, а нас з вамі, шаноўныя суайчыннікі, з тым, што ў свеце стала больш звестак пра Беларусь і што ў Японіі лягчэй будзе чытаць па-беларуску.

***Ніна Мячкоўская, прафесар БДУ.***
("Кантакты і дыялогі" , 1-2, 2002)

# VIII Кірыла-Мяфодзіеўскія чытанні

## 23 – 26 траўня 2002 г.

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры і факультэт тэалогіі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта паведамляюць аб правядзенні 23 – 26 траўня 2002 г. чарговых Кірыла-Мяфодзіеўскіх чытанняў, прысвечаных Міжнароднаму дню славянскага пісьменства і культуры.

Па тэме Чытанняў: "Духоўнае прызванне чалавека ў секулярным свеце" плануюцца наступныя секцыі:

"Агульнаславянская спадчына ў развіцці пісьменства, мовы і літаратуры";

"Кірыла-Мяфодзіеўскія традыцыі ў кніжнай культуры славянскіх народаў";

"Духоўнасць і асветніцкія традыцыі славян";

"Культуралагічныя, рэлігійна-філасофскія і рэлігіязнаўчыя даследаванні".

Форма ўдзелу ў рабоце Чытанняў:

- Выступленне з пленарным дакладам – 20 хвілін.
- Выступленне з секцыйным дакладам – 10 хвілін.

Рабочыя мовы Чытанняў – беларуская, руская

Чытанні будуць праходзіць на факультэце тэалогіі ЕГУ і ў БДУ культуры.

Для ўдзелу ў Чытаннях просім да 1 красавіка 2002 г. падаць наступныя матэрыялы:

-- Заяўку на ўдзел: Прозвішча, імя, імя па-бацьку (цалкам); месца працы, пасада, вучоная ступень, званне; назва даклада; неабходныя тэхнічныя сродкі для выступлення; службовы і хатні адрас і тэлефоны.

Тэкст дакладу: да 5 старонак кампутарнага набору праз 1 інтэрвал (Word 6.0 – 7.0 фармат RTF; памер шрыфту – 14, Times New Roman) у электронным (на дыскеце) і ў раздрукаваным выглядзе (праз 2 інтэрвалы).

Аргкамітэт просіць прытрымлівацца вызначанай тэмы Чытанняў.

Прадугледжваецца выданне зборніка матэрыялаў Чытанняў.

Рэдакцыйная рада пакідае за сабой права адбору матэрыялаў для выдання.

Адрас аргкамітэта:

Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры, аддзел рэдкай кнігі.

220001, Мінск, вул. Рабкораўская, 17

тэл. 222-83-27, 222-24-10, факс 222-24-09.

Музычная мапа

# "Сэрца Эўропы": рытм нармальны – in rock!

Мы вельмі часта наракаем на тое, што сусветныя мастацкія шляхі абыходзяць нашую краіну. І гэта сапраўды так: мы пажынаем тое, што пасеялі нашыя кіраўнікі і палітыкі, якія любыя праблемы вырашаюць самым прымітыўным метадам – шляхам забароны і вынішчэння. Якому паважаючаму сябе артысту ці калектыву закарціць забаўляць ці палітычна падтрымліваць (а менавіта так трактуюць улады выступы салідных артыстаў у сваёй краіне) недэмакратычныя рэжымы...

Таталітарная палітыка бумерангам вяртаецца яе канструктарам і кувалдай раздзёўбвае асновы іх палітычнай сістэмы. І вінаватыя ў гэтым не апазіцыя, а недальнабачныя крокі ўрадаўцаў ды іх тэарэтыкаў-дарадцаў. Гэта як пад час аб'ўленай палітыкі прыцягнення інвенстыцый адмяніць патрабаванне абавязковага выконвання на імпартных таварах надпісаў на беларускай мове. Цяпер вытворцам з усяго свету "мудрацы" з парламента ды міністэрства замежных справаў павінны тлумачыць тое, што ёсць такая краіна як Беларусь і яе ўлады выклікаюць давер. А які можа быць давер, калі партнёры самі сябе не паважаюць? Як кажуць, хацелі як лепш, а атрымалася як заўжды – пакамуністычнаму!

А патрэбна ўсяго толькі адчуць тое, што мы жыхары еўрапейскай краіны, што патрэбна адпаведная гэтаму статусу самапавага. Але пакуль слова "самапавага" – не з лексікона сённяшніх беларускіх уладаў і сродкаў масавай інфармацыі, што абслугоўваюць іх. Таму місію пастаяннага нагадвання пра еўрапейскія карані беларускай нацыі цяпер на сябе бяруць грамадскія арганізацыі. Адна з такіх – маладзёвая ініцыятыва ВМА-group, што не так даўно прапанавала слухачам цікавы рэліз еўрапейскага гучання – кампакт-дыск "Сэрца Эўропы in rock".

Гэтая музычная зборка прысвечана сучасным польска-беларускім сувязям і адлюстроўвае разуменне выдаўцамі ідэалу мастацкага ўзаемаўплыву краін-суседак. Гэты працэс мае шмат складаных старонак, у тым ліку і гістарычных. Але ёсць і тое, што нас аб'ядноўвае. Пра гэта нагадвае вокладка дыска – сэрца на фоне мапы сярэдзіны Эўропы, ахінутае каралеўскай каронай агульнай Рэчы Паспалітай "Арла" і "Пагоні".




Сучасныя польска-беларускія і беларуска-польскія музычныя ўзаемаўплывы, таксама, маюць сваю гісторыю, праблемы і светлыя старонкі. Нагадаем хоць бы пра культурны феномен беластоцкага фэсту "Басовішча", які стаўся сапраўднай з'явай сучаснай беларускай культуры, даў штуршок для развіцця беларускамоўнай рок-музыкі на Беласточчыне. Пра яе стан, стылістычныя асаблівасці можна даведацца з трэкаў дыска "Сэрца Эўропы in rock". І таму з асаблівым пачуццём мы ўслухоўваемся ў кампазіцыі лідараў беластоцкай плыні: хард-рокавага гурта "Rima", бескампрамісна панкаўскага "Кардона", электронна-наварочанага рэп-гурта "Step"...

Беларускія слухачы ўжо даўно добра ведаюць творчасць гурта "Biely Son" па выдадзенай БАСам аднайменным альбоме гэтага беластоцкага гурта. Нагадаю, што гэты рэліз быў ажыццёўлены пры фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры і мастацтва РП ды польскага радыё Беластока. Згадзіцеся, такое ў беларусі ўявіць цяжка! Выдаўцы ж дыска нагадваюць адну з лепшых кампазіцый "Bielaha Snu" "Зорка", у якой крытыкі адзначалі вытанчанасць і пранікнёнасць спеваў вакалістаў гурту Марыі Драль і Яна Хоха. А таксама віртуозную ігру сола гітарыста гурта Е. Маліноўскага.

Яшчэ адзін добры знаёмы беларускіх слухачоў – гурт "The Dzwiery", які стаў вядомы на гістарычнай радзіме дзякуючы складанцы "Вольныя танцы: альтэрнатыва – by". Нагадваю, што на гэтым рэлізе таленавіты калектыў дэбютаваў запамінальна-саркастычнай песенькай "Чайніч'ОК". цяпер жа мы маем магчымасць праслухоўваць адзін з лепшых трэкаў каманды – песню ў стылістыцы фолк-рока "Чарнабрывы".

Успомнім, таксама, што беластоцкі фолк мае сваю перадгісторыю і імёны, якія карыстаюцца вялікай папулярнасцю сярод беларусаў. Нагадаем толькі некаторыя з назоваў гэтых фальклёрных гуртоў: "Дубіны", "Алексюкі". У выкананні апошніх гучыць знакамітая "Беларусачка". Яна стала падставай для жорсткай крытыкі ў іх адрас з боку тутэйшых адэптаў "выканаўчага прафесіяналізму". Але мы з вамі добра ведаем, што менавіта гэтыя, магчыма, трохі наіўныя ды неамбіцыйныя гурты доўгі час з'яўляліся папулярызатарамі беларускай народнай спеўнай культуры. І таму гэты трэк на дыску – даніна павагі захавальнікам беларускасці на Беласточчыне.

Музыку "новай хвалі" польскіх выканаўцаў годна прэзентуюць вядомыя гурты, якія прадстаўляюць першы эшалон сённяшняй польскай рок-сцэны: "Proletaryat", "Firoflay", "Jacek Telus i "Jacques de Lousse". Для тых са слухачоў, якія захапляліся польскай "музыкай млодай генерацыі" часоў Леха Валэнсы і "Салідарнасці", трэкі гэтых польскіх выканаўцаў будуць своеасаблівым экскурсам ў сённяшнія рэаліі польскай рок-музыкі. Сімпатыкам жа чыстай "музыкі млодай генерацыі" адрасуецца выдатны, дынамічны кавер з рэпертуару культавай "Republiki", які выканаў менскі рок-гурт "Жыгімонт Ваза".

Калі задацца пытаннем: "Чаму беларускія гурты спяваюць па-польску?", дык адказ на яго будзе зусім іншым, чым калі запытацца, чаму беларускія гурты спяваюць па-расейску. Не будзем сёння аналізаваць неабходнасць нашых землякоў у рускай мове. А адзначым толькі тое, што па-польску беларусы спяваюць бадай што з сімпатыі да культуры і мовы суседзяў, з-за гістарычных паралеляў у развіцці нашых нацый. Бо іншых, меркантыльных прычын для гэтага не існуе. Таму і атрымліваюцца такія цікавыя кампазіцыі, якія зусім з іншага боку характарызуюць беларускіх рок-музыкантаў.

Вось чаму не толькі беларускім, але і польскім слухачам будуць цікавыя і "Польскі бізнес" гурта "Крама", і "Najnajnaj" гурта "NRM" і "Pozytywne wibracje" – цудоўная сумесная кампазіцыя гуртоў "Безь білета" і "Red Light" з Галандыі. Шмат падстаў для культуралагічных разважанняў наконт узаемаўплываў у музыцы прадставіць і знакаміты "Народны Альбом", з якога складальнікі новага беларуска-польскага дыска ўзялі два трэкі ў выкананні Касі Камоцкай і Лявона Вольскага – сатырычныя "Два польскіх шпіёны" ды лірычную песеньку "ja spiewam po polsku"...

Безумоўна, усе гэтыя нюансы музычных і культурных паралеляў не маглі быць не заўважаны спецыялістамі беларускага аддзялення Instytuta Polskego, якія падтрымалі выданне дыска "Сэрца Эўропы in rock" з надзеяй на далейшае супрацоўніцтва і ўзаемаразуменне.

У цэлым жа альбом атрымаўся досыць збалансаваным па музычным і моўным складніках – ён будзе вельмі карысным для адраджэння самапавагі беларусаў у метраполіі, аматарам рок-музыкі ў беластоцкім краі, польскім слухачам, якія даўно сябе лічаць у "сэрцы Эўропы".

... Альбом "Сэрца Эўропы in rock" – удалы прэцэндэнт інтрыжных фанаграфічных выданняў. Толькі вось цяжка ўявіць аналагічныя, напрыклад, беларуска-расейскія ці беларуска-літоўскія кампакт-дыскі. Таму ў працяг гэтай працы ў Беларусі чакаюць фанаграфічнага адказу ад выдаўцоў з Польшчы.

*Анатоль Мяльгуй.*

# Шаноўнае спадарства !

Прапануем далучыцца да грамадзянскай ініцыятывы.

Ствараем Аргкамітэт і, адпаведна, арганізацыю дзеля рэалізацыі Нацыянальнага плана ў галіне адукацыі па правах чалавека (1999-2004 гг.)

Запрашаем найперш людзей дасведчаных і тых, хто карыстаецца беларускай мовай.

Толькі дзякуючы намаганням грамадства згаданы План можа быць ажыццяўлены і не сканае на паліцах міністэрстваў.

Сёння ўжо існуе добрая інфармацыйная база, сетка міжнародных кантактаў, адпаведная бібліятэка, што створана ГА Адукацыйным цэнтрам "Правы чалавека". Упершыню перакладзена кніга-дапаможнік для настаўнікаў, FIRST STEP, Amnesty International, на беларускую мову, якую можна паглядзець праз Інтэрнет "Licviny-hr-ec"

Шукаць трэба праз narod.ru/

Валеры Грыцук.

Дасылайце свае прапановы і пажаданні ўдзелу на адрасы:

А/с 93, Мінск-141, 220141

Альбо Licviny-hr-ec@narod.ru/

**Прапануем:**

**Назва:** Грамадскае аб'яднанне "Людзі за адукацыю па правах чалавека", Peoples for Human Rights Education, PHRE NGO

**I. Агульныя палажэнні.**

1.1. Грамадскае аб'яднанне "Людзі за адукацыю па правах чалавека" – грамадскае аб'яднанне, што аб'ядноўвае на дабраахвотных пачатках грамадзян, якія зацікаўлены ў распаўсюджванні ведаў у галіне правоў чалавека.

1.2. Грамадскае аб'яднанне "Людзі за адукацыю па правах чалавека" ( скарочана – **ГА ЛАПЧ)** дзейнічае на тэрыторыі Беларусі ў адпаведнасці з дзейным заканадаўствам і гэтым Статутам.

1.3. Гэтае грамадскае аб'яднанне мае права ажыццяўляць любыя фактычныя і юрыдычныя дзеянні, якія неабходны для ажыццяўлення яго статутных мэтаў і задач, уключаючы: супрацоўніцтва з аналагічнымі замежнымі арганізацыямі і структурамі, заключэнне з імі неабходных дамоўленасцяў і пагадненняў; уступленне ў міжнародныя (неўрадавыя) аб'яднанні.

1.4. Грамадскае аб'яднанне "Людзі за адукацыю па правах чалавека" з'яўляецца юрыдычнай асобай, мае ўласную пячатку, штампы, сваю сімволіку; для дасягнення сваіх мэтаў можа ад свайго імя набываць маёмасць і асабістыя немаёмасныя правы, несці абавязкі, быць ісцом і адказчыкам у судах.

1.5. Грамадскае аб'яднанне "Людзі за адукацыю па правах чалавека" можа мець уласную маёмасць, уласны баланс і банкаўскі рахунак, у тым ліку і валютны. Па сваіх абавязках Грамадскае аб'яднанне "Людзі за адукацыю па правах чалавека" адказвае ўласнай маёмасцю і, не адказвае па абавязках сваіх аддзелаў і членаў, таксама як аддзелы і члены не адказваюць па яго абавязках.

1.6. Грамадскае аб'яднанне "Людзі за адукацыю па правах чалавека" ва ўстаноўленым парадку вядзе вытворча-выдавецкую дзейнасць у мэтах выканання статутных задач.

1.7. Грамадскае аб'яднанне "Людзі за адукацыю па правах чалавека" мае ўсе правы адпаведна свайму статусу.

1.8. Юрыдычны адрас: г. Мінск вул. акад. Купрэвіча, 3.

**2. Мэты, задачы, метады дзейнасці**

**Мэта:**

Дапамога ў гуманітарнай адукацыі ў галіне правоў чалавека з прыцягненнем разнастайнай інфармацыі па існуючым міжнародным і рэспубліканскім прававым дакументам праз выкарыстанне сучасных інфармацыйных метадаў; дапамога дзяржаве ў ажыццяўленні Нацыянальнага плана ў галіне адукацыі па правах чалавека.

**Задача:** дапамога дзяржаве ў стварэнні пастаянна дзейнай сістэмы (адпаведна мэце) адукацыі і распаўсюджвання інфармацыі па праблемах абароны правоў чалавека.

**Метады:**

Арганізацыя разнастайных семінараў, школ, канферэнцый, выставаў, метадычных заняткаў, дыскусій, выданне і распаўсюджванне інфармацыйных і метадычных матэрыялаў па адпаведным тэмам сумесна з іншымі грамадскімі арганізацыямі і дзяржаўнымі структурамі; іншыя формы адпаведна заканадаўству.

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**



***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 11. 03. 2002 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 561.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 418 руб., 3 мес.- 1254 руб.
***Кошт у розніцу:*** 120 руб.